

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь,
твой народ
дачакаецца
Залацістага,
яснага дня!
М. Багдановіч.*

№10 (174) ЧЭРВЕНЬ 2014 ГОД


У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## ЗНІЗІЛІСЯ ТЭМПЫ БУДАЎНІЦТВА ЖЫЛЛЯ

**У некаторых рэгіёнах Віцебскай вобласці не выканана планавае заданне па ўводу ў эксплуатацыю жылля на ўмовах дзяржзаказу, у тым ліку і ў Шумілінскім раёне.**

Каб забяспечыць патрэбы насельніцтва новымі кватэрамі, дзяржава па-ранейшаму будуе жыллё за кошт падтрымкі з бюджэта. Аднак тэмпы будаўніцтва ўжо з пачатку года значна замарудзіліся.

Усяго ў 2014 годзе ў Віцебскай вобласці павінна быць уведзена ў эксплуатацыю 410 тысяч кв. м жылля. У тым ліку за кошт дзяржаўнага бюджэта было прадугледжана не меней як 250 тысяч кв. м., на гэта запланавана выдзеліць 1 трыльён 460 мільярдаў рублёў ільготных крэдытаў.

Аднак заданне па выніках першага квартала некаторыя рэгіёны не выканалі, а такія, як Шумілінскі, Гарадоцкі, Докшыцкі, Лепельскі, Дубровенскі, не ўвялі і 10% ад запланаванага.

У чым прычына зрыву будаўніцтва тэмпаў жылля? Намеснік старшыні аблвыканкама Анатоль Дзіулін лічыць, што была нізкая гатоўнасць аб'ектаў забудоўлі з-за недастатковага і несвоечасовага фінансавання ў папярэднім годзе. Акрамя таго, з-за высокіх коштаў квадратнага метра грамадзяне неахвотна будуюць камерцыйнае жыллё, таксама уплывае і значная розніца паміж крэдытуемай і фактычнай коштам жылплошчы.

У дадатак да ўсяго на аб'ектах задзейнічана недастатковая колькасць работнікаў, якая залежыць ад кіраўнікоў будаўнічых арганізацый. Не лепшым чынам выглядаюць і праектныя арганізацыі: да 90% распрацаваных праектаў адпраўляюцца на дапрацоўку і выпраўленне заўваг дзяржаўнай будаўнічай экспертызы.

Выходзіць так, што як на будаўнічых пляцоўках, так і ў офісах арганізацый няма парадку: нізкая якасць працы, персанальная адказнасць супрацоўнікаў і прафесійны ўзровень таксама далёкі ад ідэальнага. Таму трэба павышаць якасць працы, павялічваць персанальную адказнасць кожнага супрацоўніка.

**Алесь Шумскі**

ВОЛЬНЫ ЧАС

## НА ЯКІХ ВАДАЁМАХ АДПАЧЫВАЮЦЬ ШУМІЛІНЦЫ?

**Бадай што адзіным афіцыйна дазволеным месцам для купання ў райцэнтры застаецца возера Шумілінскае. Усяго ў раёне дзейнічаюць пяць адкрытых зон адпачынку каля вадаёмаў.**

Сёлета ў раёне можна адпачываць на пяці водных аб'ектах, якія праверны санстанцыяй і бяспечны для купання. Гэта возера Шумілінскае ў гарпасёлку Шуміліна, возера Лескавіцкае ў Лескавічах, возера Круглік у в. Прыазёрная, возера Разван у в. Непароты, возера Будавесць у аграгарадку Амбросавічы. Спецыялісты дзяржаўнага санітарнага нагляду кожны тыдзень правяраюць эпідэміялагічнае становішча на гэтых азёрах, праводзяць бактэрыялагічныя даследванні саставу вады, сочаць за добраўпарадкаваннем вадаёмаў.

Напэўна, самым папулярным месцам для адпачынку у жыхароў райцэнтра з'уляецца возера Шумілінскае, бо яно знаходзіцца побач з мястэчкам. Афіцыйна лічыцца найбольш добраўпарадкаваным. На самай справе, калі заходзіць на тэрыторыю для адпачынку ля вадаёма, то яна далёка ад ідэальнага.

Першае, што кідаецца ў вочы – гэта няскошаная трава. Высокай травой зараслі усе берагі возера, яна акружае і кабіны для пераапранання, і амаль палову альтанак з ценявымі навесамі, якія месцяцца ўздоўж берага бліжэй да мястэчка. Сярод гэтай травы наведнікі пратапталі сцяжынкі. Маюцца некалькі кантэйнераў для смецця, але пакуль яшчэ абсталёўваюць пляцоўку да іх і аўтамабільную стаянку.

Трава раскашуе і ў ценявых навесах з лавачкамі, у некаторых альтанках лавачак зусім няма, відаць, як наведвальнікі самі прыстасавалі для сядзення дошку на слупках. Заўважана, як нехта з наведвальнікаў паліў вогнішча, ад якога засталіся галавешкі і некалькі цаглінак.

Праўда, у першай палове чэрвеня з большага стаіць халаднаватае надвор'е, таму адпачываючых было няшмат. Гэтаксама, як і рыбаловаў – ці то клёву не было, а можа і рыба зусім звялася.

**Алесь Прыбярэжны**

---

***ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY***

---

РЫНАК ПРАЦЫ

## ПРАПАНОВЫ ПЕРАВЫШАЮЦЬ ЗАПЫТ

**На сённяшні дзень у раёне маецца 40 вакансій на 50 вольных месцаў. Заробкі ад 1,8 млн. рублёў да 3,9 млн.**

Аналізуючы структуру попыту і прапановы на рынку працы Шуміліншчыны ў апошні час, варта адзначыць, што на рынку азначылася падзенне колькасці вакансій больш чым удвая. Гэта вынікае з таго, калі параўноўваць сітуацыю з мінулымі лічбамі за 11 красавіка гэтага года – тады было 82 вакансіі на 116 працоўных месцаў.

Назіраючы за дынамікай змены попыту і прапановы з пачатку 2014 года можна канстатаваць той факт, што найбольшы кадравы голад адзначаецца ў Шумілінскім райбыткамбінаце, незапоўненая колькасць вакансій узрасла да 11 работнікаў. У першую чаргу патрабуюцца наступныя спецыяльнасці: прыёмшчыкі заказаў – 4, цырульнікі – 2, па аднаму – шавец, кравец, кіроўца, сталяр і слесар. Пры гэтым сярэдне зарплатная прапанова для іх невысокая – кожнаму пералічанаму работніку не перавышае 1,74-1,8 мільёнаў рублёў.

Другое месца па запатрабаванасці ў чэрвені займаюць работнікі Шумілінскага лясгаса – дзевяць вакансій. Тут не хапае лесаруба, інжынера, кіроўцы, лясніка, памочнік ляснічага, майстара леса. Заробкі абяцаюць таксама сціплыя не больш за 2,5 мільёнаў рублёў. Самы высокі заробак прапануюць галоўнаму інжынеру – 3,8 мільёнаў рублёў, крыху меней галоўнаму бухгалтару – 3,5 мільёнаў рублёў.

На трэцім месцы на рынку працы ў чэрвені апынуліся аграпрамысловага комплекса раёна. Тут маецца восем вакансій. Гэта кіроўцы – 4, трактарысты – 2, аператар машыннага даення – 1, якія ў асноўным запрашаюцца на працу ў "Шумілінскі райаграсервіс". Заработная плата гэтым катэгорыям работнікаў нізкая ад 1,8 мільёнаў да 2-х. Толькі галоўныму ветурачу і галоўнаму інжынеру прызначаюць аклад у 1,9 мільёнаў рублёў.

У райбальніцы чакаюць лекараў. Тут для спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй прапануюцца наступная праца: правізар 2,7 млн. руб, лекар – 3 млн. руб. Адзін фельчар – 2 млн руб. і адна медсястра – 1,7 млн руб.

З усіх відаў вакансій самы высокі аклад будзе атрымліваць спецыяліст банкаўскіх паслуг – 3,04 млн. руб, самы нізкі плацяць прыёмшчыкам заказаў у райбыткамбінаце 1,74 млн. руб.

**Я. Вайтовіч**

З ЗАЛЫ СУДА

## ПАДПАЛЬШЧЫКІ ДАМОЎ

**Тры гады калоніі атрымаў малады жыхар Віцебска за тое, што спаліў вясковую хату ў Шумілінскім раёне. Перадусім разам з п'янымі сабутэльнікамі яшчэ і збіў яе гаспадара, які ў сваю чаргу таксама меў судзімасць за падпал.**

Звычайна наўмысныя падпалы домоў і маёмасці адбываюцца падчас сварак паміж сужыцелямі або былымі мужам і жонкай пры "несправядлівым" падзеле маёмасці. Сёлета нярэдка здараліся выпадкі, калі парушальнікі палілі сухую траву, але агонь затым перакідваўся і на жыллё. Здараюцца выпадкі ўзгарання пры неасцярожным абыходжанні з агнём або прычынай пажару становіцца дзіцячае свавольства.

У даным выпадку хата ў адной з вёсак на Шуміліншчыне была наўмысна падпалена "турыстамі" з Віцебска. Так, у адзін з зімніх дзён некалькі мужчын у Віцебску сустрэліся ў цёплай кампаніі. А прадоўжыць "адпачынак" вырашылі ў глыбінцы, дзе некалі пражывала бабуля грамадзяніна Васілеўскага (прозвішча зменена па этычных прычынах).

Застолле, аднак, працягнулася за паўнач, пакуль ён у п'яным угары не ўспомніў, што адзін мясцовы вясковец неяк спаліў хату яго бабулі гадоў пяць назад. І тая хата ўжо нібыта ніякай каштоўнасці не ўяўляла, і бабуля памерла, але ў Васілеўскага раптам загарэлася прага помсты да былога падпальшчыка. Разагрэтая алкаголем кампанія сабутэльнікаў рушыла да таго вяскоўца і ўчыніла над небаракам смасуд. У выніку яго збілі, а хату і маёмасць спалілі.

Варта дадаць пару слоў пра асобу грамадзяніна – пацярпелага гаспадара спаленай віцябчанінам хаты. Мужчына ужо меў праблемы з законам, паспеў зарабіць дзесяць судзімасцяў, некаторыя з іх не былі зняты дагэтуль. Менавіта на гэтыя акалічнасці справы прасіў звярнуць увагу суда адвакат Васілеўскага. Было відаць, што гора-піраман раскаўся ў сваім учынку, да таго ж выплаціў грашовую кампенсацыю за матэрыяльны ўрон пацярпеламу ад пажару.

А вось дзяржаўны абвінаваўца - памочнік пракурора раёна А. П. Гасанаў не палічыў патрэбным улічыць змякчальныя акалічнасці справы і той факт, што ў падсуднага ёсць жонка і маленькі сын, пра якіх трэба клапаціцца і дапамагаць. Таму і стаў стаў патрабаваць для зламысніка пяць гадоў абмежавання волі, бо наўмысны падпал – гэта цяжкае злачынства.

Праўда, суддзя Алена Сініцкая зменшыла тэрмін адбывання пакарання. Мужчына быў прызнаны судом вінаватым у здзяйсненні злачынства, прадугледжанага часткай 2 артыкула 218 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь. У выніку яму было назначана пакаранне ў выглядзе абмежавання волі тэрмінам на тры гады з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу.

**Сяржук Горкі**

ДЭМАГРАФІЧНАЯ СІТУАЦЫЯ

# КОЛЬКАСЦЬ ШУМІЛІНЦАЎ НЯЎХІЛЬНА ЗМЯНШАЕЦЦА

**За травень месяц бягучага года на Шуміліншчыне памерла 34 чалавекі, а нарадзіліся 15 немаўлят. Натуральныя страты насельніцтва раёна склалі 19 чалавек.**

Змяншэнне насельніцтва ў раёне найперш звязана з перавышэннем колькасці памерлых над народжанымі. Асабліва гэта яскрава праяўляецца ў сельскай мясцовасці. Людскія страты тлумачацца яшчэ і міграцыйнымі плынямі, што скіраваны з вёсак і невялікіх гарадоў у буйныя эканамічныя цэнтры. З'язджаюць з раёна пераважна маладыя, працаздольныя і найбольш адукаваныя людзі.

У траўні на Шуміліншчыне зарэгістравана 15 народзін, пайшлі з жыцця 34 чалавекі, заключана 8 шлюбаў. Сем немаўлят нарадзіліся ў Шуміліне, восем – у сельскай мясцовасці. Найбольшая колькасць дзетак з'явілася на свет на тэрыторыі Лаўжанскага сельсавета – трое, у Светласельскім было дабавілася яшчэ двое. Па аднаму немаўляці зарэгістравана ў Обальскім, Мішневіцкім, Дабейскім.

Што тычыцца шлюбаў, то тут сітуцыя зноў пагоршылася. За травень на 8 зарэгістраваных шлюбаў прыйшлося чатыры разводы. Прычым ва ўсіх гэтых сем'ях былі дзеці. З'яўляецца ўсё больш праблем у сямейных пар, якая негатыўна ўплываюць на трываласць шлюбаў. Не выпадкова, што яшчэ 15 пар падалі на развод у суд Шумілінскага раёна, аднак пакуль што ім далі тэрмін на прымірэнне.

Бадай што, асноўнай прычынай, якая разбурае сям'ю, застаецца п'янства мужчын. Пры гэтым часцей сталі разбурацца сямейныя саюзы па прычыне адсутнасці агульных інтарэсаў і поглядаў нажыццё,узаемапаразумення, непрыязных адносін, страты пачуццяў. Нярэдка сустракаюцца выпадкі, калі сям'я распадаецца, бо муж не падтрымліваееяматэрыяльна, не прымае ўдзел у сямейным жыцці, выхаванні дзяцей. Як бачна на прыкладзе чатырох сямейных пар, якія скасавалі шлюб, дык у двух выпадках іскі ў суд падавалі жанчыны, у двух – мужчыны.

Сярод прычын, што выклікаюць смерць шумілінцаў, першае месца ў траўні займалі займалі хваробы сістэмы кровазвароту ( памерлі 12 чалавек, трое з іх – працаздольнага ўзросту ). Другое месца ў структуры смяротнасці належыць старасці. Гэта асобы, узрост якіх дасягнуў 80 гадоў і больш. Па гэтай прычыне пайшлі з жыцця яшчэ 12 чалавек. Новаўтварэнні, пухліны, у тым ліку злаякасныя — таксама даволі распаўсюджаная прычына смерці. Ад анкалагічных захворванняў памерлі тры чалавекі. Самагубства прывяло да смерці аднаго чалавека, яшчэ адзін атруціўся алкаголем.

З усяго бачна, што дэмаграфічная сітуацыя з пачатку года не палепшылася – колькасць памерлых у параўнанні з колькасцю нованарожданных застаецца ўдвая болей. А калі стала больш рэгістравацца шлюбаў, то на жаль, падвысілася і колькасць разводаў. Таум на сённяшні дзень дэмаграфічнае становішча ў раёне застаецца складаным і патрабуе вырашэння многіх сацыяльных праблем.

Дарэчы, колькасць насельніцтва Рэспублікі Беларусь на 1 красавіка 2014 года склала 9 467 тыс. чалавек.

Натуральнае змяншэнне насельніцтва ў студзені-сакавіку 2014 г. у параўнанні з адпаведным перыядам 2013 паменшылася на 34,9% і склала 3621 чалавек. Міграцыйны прырост у студзені-сакавіку 2014 склаў 2 432 чалавекі. У студзені-сакавіку 2014 г. у рэспубліцы нарадзілася 27690 дзяцей, памерла - 31 311 чалавек. У цэлым па краіне ў студзені-сакавіку 2014 колькасць памерлых перавысіла колькасць народжаных на 13,1% (у студзені-сакавіку 2013 - на 19,8%).

**Сяржук Горкі**

ЭКАЛОГІЯ

# АЧЫСЦІЛІ ЛЕС АД СМЕЦЦЯ

**Экалагічная акцыя па ахове навакольнага асяроддзя прайшла ў Шумілінскім раёне.**

Ці падлічвае хто небудзь у раёне, колькі смецця пакідае пасля сябе кожны чалавек, або усе жыхары пакідаюць яго разам узятыя? Нават пры сціплых падліках атрымліваецца ўнушальная лічба. А колькі смецця мы бачым у прыдарожнай паласе, лясных масівах, палях, лугах, азёрах, рэках і іншых месцах?

На гэты раз работнікі лясгаса працавалі ва усіх лясніцтвах па усяму раёну. Мерапрыемства было прыурочана да Сусветнага дня аховы навакольнага асяроддзя. Добраўпарадкаванню падлягалі месцы масавага адпачынку, участкі лесу, што прылягаюць да аўтамабільных дарог, прыдарожныя канавы. Апроч таго, праводзілася ліквідацыя стыхійных звалак у лясных масівах.

Як вядома, сасоннік у Светласельскім – любімае месца адпачынку шумілінцаў. Летам тут адпачываць дарослыя с шашлыкамі, гуляюць дзеці. Таму каб гэты імправізаваны парк адпачынку паступова не ператварыўся у вялікую агульнагарадскую звалку было вырашана сабраць і вывезці на ўтылізацыю бытавое смецце. У экалагічнай акцыі па навядзенню парадку ў лясным масіве аграгарадка Светласельскі прынялі удзел і работнікі Шумілінскага лясгасу. Прынамсі, удзельнікі мерапрыемства падчас раённай акцыі спадзяюцца прыцягнуць увагу ўсіх нераўнадушных людзей да чысціні роднай зямлі і навакольнага асяроддзя.

**Уладзімір Амбросаў**

ПРАВАПАРАДАК

# АСАБЛІВАЯ ПАВАГА

**Каб аддзячыць народных дружыннікаў за актыўны ўдзел у ахове грамадскага парадку, на Обальскі керамічны завод завітаў начальнік шумілінскай міліцыі Вадзім Мядзвецкі.**

Заўсёды з боку грамадства і дзяржаўных органаў да добраахвотных народных дружын была асаблівая павага, нягледзячы на даволі сталы іх гістарычны ўзрост. Вось і на Обальскім керамічным заводзе шмат гадоў працуе добраахвотная дружына. На днях была наладжана сустрэча кіраўніцтва міліцыі і работнікаў Обальскага керамічнага завода. У актавай зале перад рабочымі выступіў начальнік Шумілінскага РАУС палкоўнік міліцыі Вадзім Мядвецкі.

У сваім прывітанні да прысутных начальнік міліцыі адзначыў тых, хто сумленна выконвае свой грамадзянскі абавязак і аказвае дапамогу міліцыянтам ў прафілактыцы правапарушэнняў. І сапраўды, на плечы обальскіх хлопцаў ускладзена вялікая адказнасць – працаваць або быць побач з тымі, хто кожны дзень знаходзіцца на варце спакою і парадку. Менавіта дзякуючы народным дружыннікам, у гарадскім пасёлку Обаль падтрымліваецца грамадскі парадак і спакой жыхароў. Размеркаваўшы на іх дапамогу вартавыя правапарадку асабліва ў выхадныя дні, калі ў гарадзе і вёсках праходзяць масавыя мерапрыемствы. Плёнам сумеснай работы дружыннікаў і міліцыянераў стала некалькі выяўленых правапарушэнняў.

Апроч таго, обальскія дружыннікі неаднаразова затрымлівалі злачынцаў, спынялі хуліганаў і тых, хто парушае Правілы дарожнага руху. Да прыкладу, нядаўна камандзір добраахвотнай дружыны Аляксандр Курачоў затрымаў каля завода п'янага кіроўцу на матацыкле, пра якога паведаміў у райаддзел міліцыі. Прычым нецвярозы мужчына рызыкаваў не толькі сваім жыццём, але перавозіў яшчэ і двух дзяўчат. У сваю чаргу кіраўніцтва Шумілінскага РАУС вырашыла заахвоціць за такі мужны ўчынак.

Наогул няма нічога страшней на дарогах, як п'яны кіроўца. Яго ўчынкі непрадказальныя, ён у любы момант можа здзейсніць дарожна-транспартнае здарэнне, у якім могуць загінуць людзі.

Дарэчы, па выніках 2013 г. у Віцебскай вобласці з удзелам вадзіцеляў, якія знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення, у 74 дарожна-транспартных здарэннях загінула 20 чалавек, 87 атрымалі цялесныя пашкоджанні рознай ступені цяжкасці. Па віне пешаходаў, якія таксама знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення, зарэгістравана 36 ДТЗ, у якіх загінула 9 чалавек і 29 атрымалі раненні

Па ўсяму бачна, шумілінская міліцыя і надалей спадзяецца на плённае супрацоўніцтва з добраахвотнай дружынай Обальскага заводу.

**Ян Вайтовіч**

ПРАВАПАРАДАК

# ВЫЯЎЛЕНЫ ПАРУШЭННІ Ў РАБОЦЕ ГАНДЛЮ

**Органамі пракуратуры Віцебскай вобласці праведзены праверкі прадпрыемстваў спажыўкааперацыі ў 17 рэгіёнах вобласці, па выніках якіх выяўлены шматлікія парушэнні ў тым ліку і ў Шумілінскім раёне.**

Так, у большасці раёнах устаноўлена, што асобнымі кіраўнікамі прадпрыемстваў спажыўкааперацыі ігнаруюцца патрабаванні заканадаўства і лакальных актаў, рашэнняў каардынацыйных нарад па Дэкрэтах кіраўніка Беларусі аб эканоміі і беражлівасці, мерах па ўмацаванні грамадскай бяспекі.Аркамя таго, ігнаруюцца палажэнні аб захаванасці ўласнасці, зваротах грамадзян і юрыдычных асоб, працоўнага і антыкарупцыйнага заканадаўства.

Да прыкладу, планавыя паказчыкі па абсталяванні аб'ектаў гандлю сродкамі сігналізацыі не выканалі ў Шумілінскім, Гарадоцкім і Бешанковіцкім райпо.

Пры гэтым у 2013 годзе зарэгістравана 38 крадзяжоў з гандлёвых аб'ектаў спажыўкааперацыі.Асноўнымі ўмовамі, спрыяльнымі здзяйснення злачынстваў, з'явіліся неналежная арганізацыя работы суб'ектаў гаспадарання па забеспячэнню захаванасці ўласнасці, адсутнасць ахоўнай сігналізацыі альбо вартавой аховы, парушэнні парадку выкарыстання ахоўнай сігналізацыі.

У ходзе праверкі арганізацыі працы па забеспячэнні захаванасці ўласнасці прадпрыемстваў устаноўлены факты безгаспадарчых выкарыстання маёмасці спажыўкааперацыі, адцягненне грашовых сродкаў на неэфектыўныя праекты і іншыя парушэнні.

Паўсюдна на гандлёвых аб'ектах спажыўкааперацыі не выконваюцца санітарныя нормы і правілы, а таксама правілы гандлю.

Толькі ў 2013 годзе спецыялістамі тэрытарыяльных цэнтраў гігіены і эпідэміялогіі праверана 2423 аб'екта спажыўкааперацыі, з іх на 1755 аб'ектах (72,4%) выяўлены парушэнні санітарна-эпідэміялагічнага заканадаўства (рэалізацыя прадукцыі, тэрмін прыдатнасці, невыкананне тэмпературнага рэжыму і ўмоў захоўвання прадуктаў і іншыя).

Названыя парушэнні носяць сістэматычны характар, што пацвярджаецца праведзенымі ў студзені-сакавіку 2014 рэйдамі па гандлёвых аб'ектах і аб'ектах грамадскага харчавання Шумілінскага, Докшыцкага, Дубровенскага, Расонскага, Лепельскага, Лёзненскага райпо і іншых прадпрыемстваў спажыўкааперацыі вобласці.

Прычынамі адзначаных парушэнняў з'явіліся няведанне, а часам і ігнараванне дзеючага заканадаўства, адсутнасць дзейснага кантролю за працай падначаленых, нізкая патрабавальнасць кіраўнікоў.

Па выніках праверкі органамі пракуратуры вынесены 15 прадстаўленняў 3 прадпісанні, абвешчаныя 4 афіцыйныя папярэджанні, прынесена 7 пратэстаў, 11 асоб прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці.

**Паводле www.prokuratura.gov.by/ru/**

# АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

РУХ У ЕЎРОПУ

# «ГЭТА ВЯЛІКІ ДЗЕНЬ ДЛЯ ЎСІХ КРАІН»

**Украіна, Грузія, Малдова падпісалі Пагадненне аб асацыяцыі з ЕС. Парашэнка падпісаў пагадненне той самай асадкай, якой не рашыўся Януковіч у Вільні 29 лістапада. Цырымонія праходзіла у Брусэлі 27 чэрвеня, у ёй бралі ўдзел лідары 28 краін ЕС.**

**Старшыня Еўрапейскага савета Херман ван Рампей** сказаў:

*«Гэта падзея з'яўляецца прызнаннем тэрытарыяльнай цэласнасці. Будучыя пакаленні Малдовы, Украіны і Грузіі запомняць гэты дзень. Гэта вялікі дзень для Еўропы. Расія хай не баіцца, бо гэта Пагадненне не скіравана супраць яе».*

**Прэм'ер-міністр Грузіі Іраклій Гарыбашвілі** ў сваім выступе зазначыў:

*«Гэта хвалюючы для Грузіі дзень. Грузія павінна далучыцца да Еўропы і забяспечыць сабе мір і стабільнасць. Мы прапануем партнёрства ў бізнес-сферы, мы з'яўляемся прыкладам рэалізацыі рэформаў у рэгіёне. На працягу гісторыі мы падзяляем з Еўропай тыя ж каштоўнасці. Наша краіна ніколі не губляла сувязі з еўрапейскімі каштоўнасцямі, нягледзячы на правакацыі. Грамадзяне Грузіі выбралі дэмакратыю. Гэта гістарычнае Пагадненне ўвасобіць еўрапейскую мару ў нашых краінах у рэальнасць».*

**Прэм'ер-міністр Малдовы Юрый Лянкэ** ў сваім выступе зазначыў:

*«Малдова і ЕС злучаныя назаўжды. Прадбачу добрую будучыню. Маладая Малдова бачыла ўзлёты і падзенні на працягу сваёй гісторыі, але становішча рэчаў хутка змяняецца да лепшага.*

*У 2009 годзе, з прыходам праеўрапейскай ўлады, гэты выбар абавязвае нас ісці наперад, і ў нас няма права на кампрамісы. Трэба стаць сябрамі гэтай еўрапейскай сям'і. Няма сумненняў у гатоўнасці. Сёння асноўныя каштоўнасці ЕС праходзяць выпрабаванне, нам патрэбна ваша падтрымка. Дзякуй калегам за тое, што нам удалося дайсці да гэтага моманту. Для Малдовы Еўропа — самы ясны і красамоўны вобраз».*

**Кіраўнік Еўрапейскай камісіі Жазэ Мануэл Барозу** дадаў: *«Гэта гонар для ЕС - падтрымаць Грузію, Украіну і Малдову ў дэмакратычных працэсах. Пагадненне, падпісанае сёння, - самы амбіцыйны дакумент, калі-небудзь які падпісваецца Еўрасазам. ЕС дапаможа краінам укараняць рэформы. Гэтыя краіны павінны кантактаваць з парламентамі і грамадствам, каб супрацоўніцтва заручылася падтрымкай знутры і каб гэты працэс стаў незваротным. Важна змагацца з карупцыяй, мы не шукаем эксклюзіўнага партнёрства, мы верым у дэмакратыю. Гэтыя Дамовы — не канчатковая кропка ў супрацоўніцтве паміж гэтымі краінамі і ЕС, гэта пачатак новага сумеснага падарожжа».*

**Reuters.com**

СВАБОДУ ПАЛІТВЯЗНЯМ!

# ЛУКАШЭНКУ СПАТРЭБІЛАСЯ ДРУГОЕ КРЫЛО

**З калоніі на электрычку да Мінска Алеся Бяляцкага везлі на хуткай дапамогі. Трэба разумець, у беларускіх уладаў здарыўся востры прыступ гуманізму.**

Амаль тры гады Мінск адфутбольваў патрабаванні апазіцыі і Захаду вызваліць вядомага праваабаронцу, а тут раптам - такая спешка.

Яшчэ раніцай 21 чэрвеня кіраўнік закрытай уладамі "Вясны" збіраўся на працу ў зоне, а ў 15.05 яго - без знаёмай па тысячам партрэтаў сівой шавялюры, голенага нагала - ужо абдымалі на сталічным вакзале.

На вызваленне па амністыі Бяляцкі, які адбыў амаль дзве трэці з чатырох з паловай гадоў тэрміну, не спадзяваўся: наляпілі парушэнняў. Аналітыкі дружна называюць рашэнне ўладаў палітычным.

**Надышоў час вялікага гандлю**

Вялікую геапалітычную гульню бачыць за гэтым жэстам беларускага кіраўніцтва мінскі палітолаг Юрый Чавусаў.

У каментары для Naviny.by ён правёў паралель з сітуацыяй 2008 года, калі пасля расійска-грузінскай вайны «з'явілася перспектыва замірэння рэжыму з Захадам».

Тады Менск, хоць Масква і ціснула, не прызнаў Абхазію і Паўднёвую Асецію. Узнікла магчымасць прадаць Захаду гэтую сваю геапалітычную пазіцыю. «Палітвязні сталі перашкодай для дасягнення нейкіх пагадненняў», - адзначае Чавусаў.

У выніку на волю ў жніўні 2008 года выйшлі Сяргей Парсюкевіч, Андрэй Кім і Аляксандр Казулін. Пачалася адліга ў адносінах з ЕС і ЗША, Беларусь атрымала ў разгар сусветнага фінансавага крызісу 3,5 мільярда даляраў крэдыту МВФ.

Цяпер на фоне расійска-украінскага канфлікту, у якім Аляксандр Лукашэнка заняў не зусім прарасейскую пазіцыю, зноў замаячыла перспектыва разблакаваць сапсаваныя па выніках выбараў-2010

*(працяг на стар. 4)*

РЭХА ПАДЗЕЙ

# СУПРАЦЬСТАЯЦЬ ТОЛЬКІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАНСАЛІДАЦЫЯЙ

**Агрэсіўнасць расійскай прапаганды, што шалёнымі хвалямі накатвае на беларусаў з экранаў тэлевізараў, цяжка сумяшчаецца з традыцыйнымі схільнасцямі беларусаў да спакою, парадку ды прыстойнасці.**

Інфармацыйная вайна, якую развязала Расія супраць Украіны і ўвогуле супраць праеўрапейскіх памкненняў былых постсавецкіх рэспублік, відавочна зачапіла Беларусь. Гэта мякка кажучы, улічваючы дамінаванне расійскага ТБ у беларускай інфармацыйнай прасторы. На думку палітолага, намесніка старшыні руху «За свабоду» Алеся Лагвінца, разумеюць гэта і ўлады, якія праз дзяржаўныя тэлеканалы і друкаваныя СМІ спрабуюць трансляваць больш узважаную пазіцыю.

- Крышку дзяржаўныя медыі штосьці ўжо робяць, то бок сітуацыя ўжо не такая чорна-белая ў іх асвятленні, бо яны загнаныя ў пастку - не могуць паўтараць выключна тое, што робіцца расійскімі медыямі, - распавядае Алесь Лагвінец «ЕўраБеларусі». - Першае, таму што не такія яны ўжо і прафесіяналы ў прапагандзе. Другое, гэтая прапаганда можа быць скіраваная супраць іх. Бо уладам трэба знайсці нейкая сваё месца нават у гэтым «Русском мире».

Таму такія крокі як адкрыццё таго ж помніку Альгерду, як усё ж такі пэўнае выкарыстанне беларускай мовы, як заявы кіраўніка Беларусі адносна Украіны і дзеянні – прысутнасць Лукашэнкі на інаўгурацыі ў Кіеве, датэрміновае вызваленне Алеся Бяляцкага – гэта пэўныя крокі, якія паказваюць, што ўладам не вельмі камфортна ў такім паўнафарматным «Русском мире» як яго разумеюць у Крамлі. І таму гэтыя крокі дыстанцавання ёсць – пытанне, як выкарыстаць іх на карысць таго, каб у нашым грамадстве было большае разуменне інтарэсаў Беларусі, большае разуменне важнасці нацыянальнай згоды.

***- Але ці не занадта далёка ўвайшла расійская прапаганда ў свядомасць беларусаў? Грамадства радыкальна падзелена Майданам і расійскай трактоўкай украінскіх падзеяў.***

- Ёсць пагроза гэтага – велізарная, але, мне падаецца, не ўсё страчана, паколькі, па-першае, беларусы наўрад ці хочуць ваяваць. А мы бачым, што расійская прапаганда – яна вельмі агрэсіўная. Так, хутчэй за ўсё, беларусы ёсць усё ж пасіўнымі ўспрымальнікамі прапаганды. Але ў той жа час яны маюць пэўны інтарэс – яны хочуць парадку, спакою і прыстойнасці, каб было па-людску.

І з гэтага пункту гледзішча – і дваццаць год незалежнасці, і наша блізкасць да літоўцаў, да палякаў, і нашы кантакты з імі ўсё ж такі ёсць пэўнай зарукай, што справы ў Беларусі могуць пайсці іншым шляхам. У нас будзе свой беларускі шлях, шлях рэвалюцыі духу, але калі ён наступіць – гэта немагчыма прызначыць альбо сфармуляваць і зафіксаваць. Але ў кожным разе шанцы на гэта маюцца – пакуль ёсць беларуская дзяржава, пакуль ёсць беларусы, якія ганарацца тым, што яны беларусы і якія хочуць будаваць сваю незалежнасць.

***- І як беларусам рэалізаваць свае жаданні? Майдан – наўрад ці гэта выбар большасці беларусаў.***

- Пытанне крытычнай масы і супольных дзеянняў. Калі людзі будуць мець аднолькавую рэакцыю на несправядлівыя дзеянні і салідарна на гэта рэагаваць. Патрэбна кансалідавацца беларусам, неабыякавым беларусам. Улада сёння робіць вельмі мала, практычна нічога дзеля таго, каб у грамадстве быў дыялог, была нацыянальная згода.




Варта перакanaць як большыню беларусаў, якія яшчэ ахопленыя сваёй абыякавасцю, так і ўладу, што мы – грамадзяне Беларусі – маем інтарэс у тым, каб размаўлялі паміж сабой, каб слухаць адзін аднаго. І відавочна пратэст – гэта права любога грамадзяніна, права на мірны пратэст. Негвалтоўны супраціў – нашмат больш паспяховы, чымсьці той, які вядзе да велізарных стратаў.

РАСІЙСКА-ЎКРАІНСКІ КАНФЛІКТ

# «БЕЗ РОССИЙСКОГО ОРУЖИЯ, ДЕНЕГ И БОЕВИКОВ…»

**Если на крыше жилого дома размещен зенитный комплекс, кто виноват в том, что этот дом обстреливают?**

20 апреля славная телекомпания НТВ в программе «Чрезвычайное происшествие» показала в эфире «жительницу города Краматорска» Людмилу Журомскую. Г-жа Журомская демонстрировала свой подвал, в котором она «в мирное время, в 21 веке, прячется от бомбежек». «Жительница города Краматорска» живет в 300 км от него в Запорожской области в селе Терпиння. Подвал располагается там же, съемки велись там же, и мне представляется, что корреспонденты НТВ никаким образом, даже накушавшись самого тяжелого героина, не могли случайно перепутать подвал в Краматорске с подвалом в селе Терпиння.

Фейк – бог с ним, но вот, что важно: каждый день, утром и вечером, российские государственные телеканалы и примкнувший к ним Следственный комитет ездят нам по ушам, рассказывая о том, как бесчеловечные украинские фашисты бомбят собственное население. Этот острый приступ гуманизма внезапно поразил российские власти, которые до сих пор к бомбежкам собственного населения (например, в г. Грозный) относились весьма равнодушно и даже были замечены в расстрелах из танков — без особой военной надобности — многоэтажных домов в Махачкале или Буйнакске по случаю нахождения в одной из квартир парочки боевиков.

Давайте все-таки определимся и поставим точки над i. В бомбежках мирного населения во время войны виноваты, в первую очередь, те, кто начали эту войну. И тем более те, кто прикрываются мирным населением.

Представим себе вместо Людмилы Журомской жительницу Дрездена, которая в феврале 1945 г. дает интервью CNN. «Я мирный человек, — говорит она. — Я никогда ни в чем таком не участвовала, а эти самолеты союзников убили 25 тыс. человек в моем городе и превратили мой дом в руины». Жалко ее? Конечно. Кто виноват в том, что ее город бомбят? В первую очередь, Гитлер (и Сталин, замечу я). Тот, кто начал Вторую мировую войну. Не начал бы Гитлер войну... трудно мне себе представить, чтобы вот так из ясного неба прилетели американцы и разбомбили Дрезден.

Случай Славянска чем-то отличается? Увы, да. В худшую сторону, потому что много плохого можно сказать про Гитлера, но я еще не слышала, чтобы немецкие солдаты прикрывались мирным немецким населением.

Это началось с Палестины и с бесстрашных палестинских борцов за права человека и за уничтожение государства Израиль. Палестинские террористы стали систематически размещать свои ракеты на крышах домов, больниц и пр. Сначала они прикрывались мирным населением, будучи уверены, что HumanRights-Watch каждую израильскую ракету, поразившую размещенных так террористов, запишет в преступления израильской военщины против мирных женщин и детей, а потом — и вовсе перешли к тактике максимизации потерь среди собственного мирного населения.

Если раньше в истории человечества большие сильные бородатые самцы вели войну так, чтобы максимизировать потери противника, то именно в Палестине был освоен новый способ ведения войны — большие сильные бородатые самцы стали вести войну так, чтобы максимизировать число трупов среди собственных женщин и детей. Максимизировать число своих трупов всегда легче, чем число чужих, и это привело к подлинной революции в целях и методах войны (отмечу, что без защитников прав человека эта новая стратегия войны возникнуть не могла).

Именно такую стратегию Россия применяет в Славянске, копируя палестинских террористов от и до, вплоть до совершенно потрясающих снимков, на которых вооруженные до зубов мужики перебегают улицу, держа перед собой двух испуганных подростков, мальчика и девочку, физически прячась за их худенькими телами.

Вопрос: если на крыше жилого дома размещен зенитный комплекс, кто виноват в том, что этот дом обстреливают? Ответ: тот, кто разместил комплекс.

Дополнительная подлость тут в том, что такой тип войны в принципе непременным своим условием требует гуманности противника. Гитлеровские войска не прикрывались женщинами и детьми не потому, что они были такие гуманные, а потому, что присутствие женщин и детей никак бы особо не смутило союзников. Мирными жителями прикрываются только в тех странах, в которых мирные жители имеют значение.

Вы слышали когда-нибудь про теракт с захватом заложников в Китае? Ответ — нет. Потому что заведомо известно, что китайскому правительству на заложников наплевать. Вы обратили внимание, что после Норд-Оста и особенно Беслана теракты с захватом заложников в России происходить перестали? Потому что после того, как в Беслане мы браво пальнули по школе из огнемета, даже самому тупому террористу стало ясно, что в России брать заложников бесполезно. Вы слышали когда-нибудь, чтобы где-нибудь в Африке два племени воевали, прикрываясь женщинами и детьми? Ха! Это очень глупая стратегия. В женщин и детей удобней стрелять.

То есть сам факт того, что в Донецке и Луганске террористы прикрываются женщинами и детьми показывает ровно обратное тому, что пытаются доказать российское телевидение и Следственный комитет: а именно, что украинскому правительству есть дело до женщин и детей. Иначе бы — не прикрывались.

Давайте сейчас забудем о деталях (немаловажных впрочем). О том, что рассказы российского телеследственного комитета о тотальном геноциде города Славянска, мягко говоря, преувеличены. О том, что размещаемые в сети фотографии мертвых детей, убитых кровавой украинской военщиной, оказываются, как назло, фотографиями жертв бомбежек в Сирии или обезглавленного в Саудовской Аравии педофила. Что видео обстрела Славянска украинскими «Градами» оказалось обстрелом Цхинвали «Градами» российскими 9 августа 2008 г., что, согласитесь, совсем уже особый цинизм: сначала выносили из Цхинвали «Градами» грузинские войска и при этом заявляли, что это грузины обстреливают Цхинвали, а потом тот же суп съели по второму разу.

Вот очень простая вещь. Если Кремль хочет, чтобы украинские власти перестали обстреливать мирных жителей в Славянске, то ему просто надо убрать из Славянска своих боевиков. Потому что это не украинская «гражданская война», как бы нам ни пытались внушить обратное. Потому что, как справедливо посетовал сам командующий боевиками в Славянске, сотрудник СБ российского олигарха Константина Малофеева Гиркин/Стрелков (разместив попутно в собственном блоге фото БТР, горевшего 25 лет назад на площади Тяньаньмэнь, в качестве фотосвидетельства собственных побед над украинскими фашистами), местный народ воевать не хочет.

Без российского оружия, российских (или Януковича) денег и российских боевиков, безнаказанно пересекающих российско-украинскую границу, все бы кончилось в три дня.

**Юлия Латынина**
**ej.ru**

СВАБОДУ ПАЛІТВЯЗНЯМ!

*(пачатак на стар. 3)*

адносіны з Захадам досыць хутка і, у прынцыпе, малой крывёю.

Сам Бяляцкі спадзяецца, што яго вызваленне - толькі першая ластаўка. У спісе палітвязняў на сайце "Вясны" - яшчэ сем прозвішчаў, у тым ліку экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча.

Чавусаў мяркуе, што беларускае кіраўніцтва цяпер аддасць перавагу не выкідваць ўсе козыры, а дачакацца нейкіх крокаў у адказ Захаду, якія сімвалізуюць «рукопожатность» Лукашэнка.

**Палітвязняў прададуць па частках?**

Валерый Карбалевіч, эксперт аналітычнага цэнтра "Стратэгія" (Мінск), таксама заявіў у каментары для Naviny.by, што «палітвязняў, магчыма, будуць прадаваць па частках».

На думку аналітыка, Мінск будзе сачыць за тым, як адрэагуе на цяперашняе вызваленне знакамітага палітвязня Еўрасаюз. Беларускі бок хацеў бы адмены санкцый, адзначае суразмоўца, але наўрад ці Брусэль пойдзе на такі крок пасля выпуску з турмы аднаго толькі Бяляцкага. Магчыма, санкцыі для пачатку скароцяць.

Чавусаў ж дапускае, што можа быць прарыў у адносінах паміж Беларуссю і Штатамі. Пасля дыпламатычнай вайны вясны 2008 года дыпмісіі Беларусі ў Вашынгтоне і ЗША ў Менску абяскроўленыя, працуюць без паслоў. Афіцыйнаму ж Мінску сёння асабліва важна наладзіць адносіны з самай магутнай краінай свету.

Чаму ўлады так заварушыліся на заходнім кірунку? Палітолагі падкрэсліваюць расійскі фактар. Бачачы агрэсію Крамля супраць Украіны, «Лукашэнка трохі спалохаўся», адзначае Карбалевіч.

Уладалюбнаму кіраўніку краіны, якая патрапіла ў жорсткую залежнасць ад Расіі, трэба пашырыць прастору геапалітычнага манеўру. Момант спрыяльны тым, што Захаду, таксама напалоханаму захопам Крыма, выбліскам вялікадзяржаўных амбіцый Крамля, цяпер асабліва не да натацый па частцы дэмакратыі ў адрас «апошняга дыктатара Еўропы» (да ўж і ці апошняга?).

Заходнікі аддаюць належнае хоць бы некаторагадыстанцыяванне Лукашэнкі ад Крамля ў украінскім пытанні і, як пагаворваюць у дыпламатычных кулуарах, гатовыя нават стрымана аддзячыць. Вызваленне палітычных вязняў дазволіла б зрабіць гэта з захаваннем асобы.

Лукашэнка ж мае і яшчэ адзін козыр. Ад яго пазіцыі шмат у чым залежыць, якім апынецца Еўразійскі эканамічны саюз-рэальным геапалітычным блокам або бюракратычным утварэннем тыпу Саюзнай дзяржавы, адзначае Чавусаў.

Натуральна, Захад не зацікаўлены ў першым, моцным варыянце. Лукашэнка ж мае багаты вопыт рэдуцыравання інтэграцыйных праектаў Крамля.

**Мінск атрымлівае процівагу і грошы**

Якая цікавасць беларускага афіцыйнага лідэра? Адносная нармалізацыя адносінаў з Захадам дае магчымасць вярнуцца да звыклай палітыцы лавіравання паміж цэнтрамі сілы на міжнароднай арэне. «Лукашэнка спатрэбілася другое крыло», - адзначае Чавусаў.

Далей, для выратавання ад фінансава-эканамічнага абвалу быў бы вельмі дарэчы новы крэдыт МВФ.

Паколькі крэдытная залежнасць ад Расеі становіцца пагрозлівай, ужо сама дыверсіфікацыя знешняга доўгу ўяўляецца дабром. Да таго ж МВФ можа даць пазыку на больш гуманных умовах і нават, пагаворваюць, змякчыць патрабаванні па частцы рэформаў.

У цэлым паляпшэнне палітычных адносін з Захадам дае сігнал замежным банкірам, інвестарам.

Нарэшце, нішто чалавечае не чужа замацярэламу за два дзесяцігоддзі ў сваім крэсле кіраўніку Беларусі. Было бачна, як радаваўся ён нядаўна ў Кіеве на інаўгурацыі Пятра Парашэнкі магчымасці апынуцца ў адной кампаніі з лідэрамі краін ЕС, віцэ-прэзідэнтам ЗША. Пахваліўся потым у інтэрв'ю сербам: «Прынамсі, са мной ужо вітаюцца і размаўляюць».

**Геапалітыка працуе на незалежнасць**

Але нават калі выйдуць на волю ўсе палітвязні, цудаў збліжэння з Еўропай і рашучых рэформаў у краіне не будзе.

«Спадзявацца на паўтор лібералізацыі, якая была перад выбарамі 2010 года, не варта», - лічыць Карбалевіч. Паводле яго прагнозу, перад прэзідэнцкімі выбарамі 2015 года, хутчэй, будуць зацісказь гайкі.

І ўсё ж вызваленне Бяляцкага - рэдкая і моцная порцыя пазітыву для тых, хто хоча пераменаў у Беларусі. Кропля камень точыць. Прыйшоў дзень, калі уладам прыпякло - і яны пайшлі на саступкі.

Так, рэжым заклапочаны самазахаваннем. Але пры гэтым адрошчванне другога геапалітычнага крыла павышае шанец захаваць беларускую незалежнасць, мацней завязаўшы яе на інтарэсы буйных сусветных гульцоў.

**Аляксандр Класкоўскі**
**БЕЛАПАН**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 30.06.2014 у 20.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.